№ 52 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 52 (144). Год II. Вільня, 29 чэрвеня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ТЭЛЕГРАМА ГРІММА.

### 28 чэрвеня.

**Заходні тэатр:**

Дальнабойные батарэі абстрэлівалі Дюнкірхэн. Ворагі абстрэлівалі Остэндэ. У Фляндрыі і Артуа—востры агонь артылерыі.

На Эн, на поўначы ад Рэймсу і ў заходняй Шампані агонь артылерыі ажывіўся.

**Усходні тэатр:**

На ўсходня-галіцкім фронці — крапчэйшая артылерыйская чыннасць.

---

БЭРН. У знаменітай тэлеграмі, пасланай с Пецярбурга, с прычыны каторай Грімма выдалілі з Расеі, гаворыцца:

„У міністэрство загранічных спраў.

„Грімм просіць аддаць ніжэйпісаную тэлеграму:

„Усе жадаюць міра. С палітычнаго, экономічнаго і ваеннаго пагляду мір — крайняя патрэба. Гэта прызнаюць аўторытэтные кругі. Францiя і Англія працівяцца гэтаму. Шансы—добрые. Перашкодзіць перэгаворам магло бы толькі нямецкае наступленьне на ўсход. Калі яго ня будзе, дык ліквідацыя адбудзецца ў даволі скорым часі. Міжнародная конфэрэнцыя, якую сазывае рада работнікоў, гэта—часць мірнай палітыкі новаго ураду. Конфэрэнцыя адбудзецца напэўна, калі урады ня будуць рабіць прашкод с пашпартамі. Усе старонкі згодзіліся пасьлаць сваіх дэлегатоў. Паведаміце мяне аб ваенных мэтах ураду. Я буду ў Пецярбурзі ешчэ 10 дзён“.

ПЕЦЯРБУРГ. Камісія ўсерасейскаго з'езду раб. і салд. пастанавіла аддаць развязку пытаньня аб наступленьні устаноўчаму сэйму, які склікаецца на восень.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. пастанавіў у згодзі з бюро ўсерасейскаго з'езду раб. і салд. паслаць спэцыяльную дэлегацію с 6 душ у Францію і Англію дзеля падгатоўкі чым-хутчэй сазыву міжнароднай конфэрэнціі на аснові праграмы, прынятай спаўніцельнай камісіей.

РОТТЭРДАМ. «Daily Chronicl» даносіць:

Камісія нацыянальна-дэмократычнай партыі Англіі адкінула запросіны расейскай рады раб. і салд. на штокгольмскую конфэрэнцію, бо перэгаворы з нямецкімі і аўстрыяцкімі соцыалістамі, каторые ўсё ешчэ бароняць ваенную палітыку Нямеччыны, не дадуць ніякай карысьці справі згоды і соцыялізму. Дый, наагул, расейская рада раб. і салд. не мае права склікаць міжнародную соцыялістычную конфэрэнцію.

ШТОКГОЛЬМ. Урады Англіі і Франціі паведамілі сваіх падданых у Расеі, што с прычыны грознаго палажэньня ў Расеі ім трэбалоб зліквідаваць свае прэдпрыемствы і вярнуцца ў сваю бацькаўшчыну.

АМСТЭРДАМ. Лорд Сэсіль заявіў журналістам, што Японія адрэкаецца мешацца ў расейскіе справы і толькі да часу падтрымлівала лад у Владывастоку.

ШТОКГОЛЬМ. Увесь флот броненосцаў клясы «Гангута», зложэны с 4 найнавейшых і найбольш быстраходных параходаў расейскаго флота: «Гангут», «Полтава», «Севастополь» і «Петропавловск» аб'явілі сябе незалежнымі ад тымчасоваго ураду ў Пецярбурзі, ўважаючы, што апошні ня можэ больш лічыцца за прэдстаўніка расейскаго народу.

ЛОНДОН. Англіцкіе газэты згодліва адзначываюць, што у апошніе дні узрасло чысло ахвяр падводнай вайны.

ЛОНДОН. Злучэные Штаты пасулілі Мэксыцэ пазыку 50 мільёнаў дольляроў на паляпшэньне сельскай гаспадаркі — с тэй умовай, што лішку сельска-гаспадарскіх прадуктоў Мэксыка прадасць Амэрыцэ.

АМСТЭРДАМ. У суботу вечарам на вуліцах Афін запасные зрабілі дэмонстрацію с крыкамі: «Ніхай жыве Нямеччына! Ніхай жыве Макензэн!»

АФІНЫ. Афіцэрскі корпус у афінах і ў Салоніках пагодзіліся.

АФІНЫ. Вэнізэлёс улажыў міністэрство, у каторым ён занімае мейсцо міністра-прэзыдэнта і ваеннаго міністра.

---

*Вільня, 29 чэрвеня 1917 г.*

«Замаўчаць» беларусаў палякам не ўдалося: як ні старалося тутэйшае польскае грамадзянство прыдаць нашаму краю «польскі характэр», з работы яго нічога ня выйшло. Хоць і з вялікай труднасьцю, не маючы ніякаго доступу туды, дзе палякі чуюцца «як у сябе дома», беларусы сваей упорнай працай дзеля нацыональнай справы давялі ўсяму сьвету, што яны жывуць і жыць будуць, што становяць аснаўны краёвы элемэнт у Беласточчыне, Гродзеншчыне, Віленшчыне — так сама, як на вялізарным абшары Беларускай зямлі пад Расеей. І аб гэты падводны камень, катораго сперша блізка што нельга было дагледзіць, разбіўся польскі плян, каторы меў на мэці далучыць наш край да Польшчы на тэй аснові, што гэтаго жадае тутэйшая польская буржуазія. І то жадае гэтаго **толькі** яна: апрыч беларусоў, каторые заўсёды востра выступалі проці аннэксыйных апэтытоў Польшчы, апрыч літвіноў і жыдоў, проці захвату нашаго краю палякамі выступілі тутэйшые польскіе работнікі, згуртаваные ў соцыал-дэмократычнай партыі Літвы (адозву іх мы друкавалі ў № 32 «Гомана»).

Апошнім крокам польскай палітыкі, каторая манілася гвалтам забраць пад Польшчу нашу Бацькаўшчыну, вырваўшы ў Беларусі добры кусок зямлі, быў вядомы мэмор'ял да нямецкай імперскай уласьці. Аднак, с тым мэмор'ялам здарылася сьмяхотная гісторыя. Аказалося, што аўторы яго, як кажуць, «перэстараліся»: падалі яго як раз у той момэнт, калі варшаўскіе палітыкі прызналі тутэйшую польскую палітыку неўдачнай. На нарадзі ў Варшаві 22 мая прэдстаўнікі, бадай, усіх польскіх партый і кірункоў пастанавілі« ад імі грамадзянства уваскросшай польскай дзержавы трэбаваць незалежнаго гасударственаго быту так-жэ для зямель даўнейшаго Вялікаго Князьства Літоўскаго»,— значыць, Беларусі і Літвы, высказываючы веру і жаданьне, каб гэты край аднавіў колішнюю еднасць с Польскім Каралеўствам, як роўны з роўным. І гэта пастанова паказвае, які благі момэнт выбралі тутэйшые палякі, выступаючы ў сваім мэмор'яле проці нашаго незалежнаго быту.

Аднак, дадатак да гэтай пастановы, ў каторым гаворыцца аб „аднаўленьні еднасьці с Польшчай“, паказвае, што варшаўская дэклярація мае тую-ж мэту, як і віленскі мемор'ял, толькі ўжывае іншай тактыкі: Польшча, зразумеўшы, што гвалтам забраць наш край ей ніхто не пазволіць, пачынае нас заманіваць пекнымі словамі аб незалежнасьці—пасьля таго, як „нашы“ палякі, асабліваж польскае нацыоналістычнае духавенство ўсемі сіламі стараліся і старающца зьнішчыць у нас уселякую думку аб незалежнасьці!

Калі мы ад самых нарадзін аннэксыйнаго кірунку ў Польшчы востра выступалі проці далучэньня нас да Польскай шляхоцкай монархіі, дык рабілі мы гэта не з якой будзь ненавісьці да польскаго народу, ў чым вінавацяць нас тутэйшые палякі, а с тэй прычыны, што прылучэньне да Польшчы суліць незвычайна вялікіе шкоды нашаму народу. І цяпер у гэтым нічога не змянілося. Дый беларусы маюць свае зусім ясные палітычные ідэалы, каторые не раз высказывало беларускае грамадзянство і перад вайной, і цяпер,—пад нямецкай окупацией і ў Расеі. Асабліва ярка высказаў свае дамаганьня беларускі народны камітэт, выбраны на конвэнці ў Мінску,—а ў яго рэзолюціях німа і ўспаміну аб якой-будзь еднасьці Беларусі с Польшчай.

---

## Новы цэнтр.

Калісь расейскі паэт Пушкін высказаў у вершу сучасны яму расейскі нацыональны ідэал, паводлуг катораго «славянскіе руччы» павінны «зліцца ў расейскім моры». І ажно да часу пабеднай рэволюціі расейская палітыка кіравалася да таго, каб Расея сталася цэнтрам усяго славянства, каб славянскіе народы злучыліся з ею сперша ў сваім дзержаўным жыцьці, а пасьля і ў культурна-нацыональным. Але палітыка гэта, карыстаючыся нягоднымі спосабамі, дайшла зусім праціўных рэзультатоў: уціск і гвалты над «недзержаўнымі» націямі вызвалі у апошніх востры адпор расейскім апэтытам і толькі узмацавалі рухі да волі, да самабытнасьці як культурна-нацыональнай, так і гасударственай.

У змаганьні з расейскім нацыоналізмам найбольш ярка выступалі палякі. З гэтай прычыны шмат хто глядзеў на іх, як на новы цэнтр славянства, каторы згуртуе навакол сябе братніе народы, стагнаўшые ў царскай няволі. Але палякі не патрапілі выкарыстаць палажэньня: самі уцісканые, яны пачалі уціскаць, дзе мелі сілу, беларусоў і украінцоў, ды гэтым збудзілі у апошніх рэзкі адпор, вызвалі вострую барацьбу—польска-беларускую і польска-украінскую. Само сабой, што пры такіх варунках ні беларусы, ні украінцы не маглі будаваць сва-

